Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 21. Вільня, 5 жніўня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## ТВОРЧАЯ ПРАЦА Ў САМАЎРАДАХ.

Падводзячы агулы выбараў у самаўрады ў чатырох бел. ваяводзтвах мы бачым, што ў валасныя рады прайшло шмат беларусаў, а ў іншых валасьцях беларусы зьяўляюцца ў абсолютнай большасьці.

Характарным зьяўляецца тое, што процант радных беларусаў агулам ў адносінах да колькасьці іх у даўнейшых валасных радах, значна павялічыўся. Гэта сьведчыць бязумоўна з аднаго боку аб значным узросьце нацыянальнай сьведамасьці беларускага сялянства, а з другога боку аб тым, што даўнейшыя валасныя рады шмат дзе не маглі справіцца са сваёю задачаю і дзеля гэтага сялянства рашыла аддаць валасную гаспадарку ў рукі новых людзей. Што гэная апошняя прычына ў выбарах значнага процанту беларусаў мела вялікае значэньне — не падлягае ніякаму сумлеву, бо як-бы ні былі опозыцыйны ў адносінах да польскіх уладаў кіраўнікі іншых беларускіх палітычных партыяў, сялянства наша ніколі не грашыла нацыянальным шовінізмам і большы процант беларускіх радных у новых валасных радах зьяўляецца галоўным чынам толькі рэзультатам таго, што небеларускі элемэнт у старых самаўрадах ня мог, ці не хацеў падбаць аб культурных і гаспадарчых справах сялян-беларусаў і дзеля гэтага застаўся цяпер у большасьці выкінены за борт гаспадаркі самаўрадаў.

І вось цяпер перад сябрамі валасных радаў—беларусамі—стаіць вельмі адказная задача, асабліва ў тых валасьцях, дзе беларусы прайшлі ў абсолютнай большасьці.

Беларускае сялянства, выбіраючы іх, мела надзею, што яны валасную гаспадарку патрапяць павясьці лепей, чым іх папярэднікі, што яны лепш за іх патрапяць падбаць аб здаваленьні праз самаўрады ўсіх патрэбаў культурнага і гаспадарскага жыцьця нашае беларускае вёскі, і што праца іх не зьвядзецца толькі да бясплоднай крытыкі ды оханьня, што тое дрэнна, а гэта яшчэ горшае, але запраўды дасьць позытыўныя рэзультаты.

Бо вы, паны радныя, сыны нашае вёскі, найлепш хіба ведаеце, што народ ніколі не здаволіцца абяцанкамі, што грамадзянства ацэньваць вашу працу будзе не па тым, што вы *хацелі зрабіць*, і дзеля тых ці іншых прычынаў зрабіць не маглі, а цаніць будзе вашу працу па яе *выніках, па яе рэзультатах, па тым, што яна рэальнага дала выбраўшаму вас сялянству*. Праца сяброў валаснае рады — праца творчая.

Задачай самаўрадаў—ёсьць арганізацыя і будаўніцтва здаровых формаў грамадзкага жыцьця.

Праца гэта вельмі трудная і вымагае добрай падрыхтоўкі да яе тых, хто за яе бярэцца. Нажаль, няма школы, якая магла-б навучыць і падрыхтаваць людзей да гэнае працы.

Адзінай школай яе зьяўляецца само жыцьцё. А з гэнае крыніцы наша беларускае сялянства чэрпае навуку толькі ўсяго некалькі год.

Дзеля гэтага ня дзіва: пакуль што, нам не хапае выробленых працаўнікоў у гэнай галіне, бо навука гэта — нялёгкая і здабываецца не адразу, а цэлымі гадамі ўпорнай сумленнай працы, ў якую трэба ўлажыць шмат свае душы і сілаў. Бязумоўна, што ў гэткіх самых варунках знаходзіліся і сябры радаў — беларусы. І паміж імі шмат бязумоўна ёсьць людзей, якія ня зусім падрыхтованы да свае новае працы. І вось першай іх задачай будзе папоўніць недахоп падрыхтоўкі і ў магчыма кароткім часе здабыць тую навуку, і вопыт, якія неабходны кожнаму грамадзкаму працаўніку. Адзіным шляхам для здабыцьця гэнае навукі ёсьць актыўная праца ў грамадзкіх установах. Нашыя радныя павінны ісьці да іх, працаваць там і разам вучыцца арганізацыі грамадзкага жыцьця. Яны павінны ісьці ў коопэрацыю, ўва ўсіх яе формах, у спажывецкія крамкі, банкі і касы, коопэрацыйныя малачарні, ў коопэрацыйныя установы сельскай гаспадаркі, ў установы культурныя, адным словам усюды, дзе гуртуецца грамадзкая праца, дзе крыніцай б'е грамадзкае жыцьцё.

Мала таго, да гэнае працы радныя нашыя павінны ўцягваць і масы беларускага сялянства. Бо толькі там яно навучыцца, як уласнымі сіламі пракладаць дарогу да лепшых формаў жыцьця, толькі там яно зразумее, што куды лягчэй крытыкаваць працу іншых, чымся добра зрабіць якую-небудзь работу і, быць можа, зразумее і даруе вам абмылкі і недахапы вашай працы ў самаўрадах.

Так, паны радныя, гэта ваша першая і самая найважнейшая задача. Бяз гэнае навукі вы не патрапіце самаўрадамі пакіраваць належным спосабам і сядзеце на мель, так сама, як і вашыя папярэднікі. А гэта было-б страшэнна шкодным для нацыянальнага беларускага руху, бо народ страціць веру і ў вашую добрую волю і ў вашыя сілы і ўменьне кіраваць яго жыцьцём, і на будучых выбарах у валасныя рады будзе шукаць новых людзей, якія прайшлі ўжо школу грамадзкае працы.

Не! Беларускія радныя павінны вывязьці самаўрадовы воз з таго балота, ў якім ён заграз, на чысты шлях і гэным даказаць, што гаспадарскім і культурным жыцьцём беларускага сялянства найлепей кіраваць патрапяць беларусы.

---

# ВАР'ЯТ.

Скончылася ў невялічкай вясковай цэркаўцы набажэнства. Народ разыходзіцца па дамох. Але моладзь уся застаецца: яна чакае шлюбу, што мае адбыцца сяголетня. Вясельнікі прыехалі рана; цяпераках яны ўсе пайшлі ў дом да сьвяшчэньніка рабіць запісы. Застаўся адзін толькі музыка, які, седзячы на возе, ліха рэжа на гармоніку, чым робіць, сабраўшымся каля яго, хлапцом і дзяўчатам вялікую прыемнасьць. Разьлягаюцца галасы, хвалячыя музыку.

„Добра, добра грае“ — кажуць хлапцы.

„Вось шкада толькі, што паскакаць тутака нельга“ — заяўляюць дзяўчаты.

— Эй, музыка! Чаму ты, як граеш, то ўсё галаву блізка да гармоніка дзяржыш? Хіба чуеш нядобрае? — пытаецца нехта.

Музыка хоча нешта адказаць, як маладыя ўжо выходзяць з плебаньні і ідуць у царкву. Твары большасьці хлапцоў расплываюцца ў шырокую усьмешку.

— Вось і Лукаш маладым стаў! — нясуцца галасы.

Малады, прыгожы хлапец з чорнымі валасамі, гадоў двадцацёх-трох — лёгка ўсьмяхаецца на гэта.

Музыка моўкне, і ўсе ідуць у царкву. Маладыя ўжо стаяць пасярэдзіне, на сваім месцы; на твары Лукаша выраз шчасьця і задаваленьня, але маладая нешта сумна стаіць і час-ад-часу кідае косыя пагляды на маладога. Выходзіць з аўтара сьвяшчэньнік з псалмістым — зараз абрад пачнецца. Але тутака здарыўся выпадак, якога ніхто не чакаў.

Маладая выбухнула галосным плачам, і, зьдзёршы з сябе вуаль з краскамі, шпарка выбегла з царквы. На падворку яе затрымалі.

— Чаго ты? Куды?

— Ня ваша гэта, людзі, справа, але мая! пусьцеце!

— Дурная: сабе сораму нарабіла і маладому робіш яшчэ больш... Вярніся!

— Пусьцеце! — і досыць, кажу вам! — злосна крыкнула яна і, вырваўшыся, пабегла дарогаю недзе.

А Лукаш у царкве стаяў бляды, як труп. Увайшлі людзі, што затрымлівалі нарачоную.

— Пайшла, ня слухала нічога; мы ёй казалі... — сумна, быццам апраўдваючыся казалі ўвайшоўшыя.

# Як савецкі ўрад надзяляе зямлёй беларускае сялянства.

У той час, як афіцыяльна устаноўлена, што на савецкай Беларусі зямлі не хапае для надзяленьня ёю ў патрэбнай колькасьці сялян-беларусаў, і каб спыніць зямельны голад урадовыя кругі Савецкай Беларусі апрацавалі грандыёзны плян перасяленьня ў Сыбір каля аднаго мільёна беларускага сялянства — ў той самы час беларуская зямелька раздаецца ў Савецкай Беларусі шчодраю рукою людзям, якія сельскай гаспадаркай ніколі не займаліся.

Вось што аб гэтым пішаць газэта „Звезда" орган Цэнтр. Кам. Камуніст. Партыі (б) Беларусі у № 168 (2678) з дня 26 ліпня сёлетняга году ў артыкуле „Земельное устройство трудящихся евреев Б. С. С. Р.":

„Закон аб надзяленьні зямлёю жыдоў быў выданы 25 ліпня 1924 году, г. знача тры гады таму назад. Паводлуг гэнага закону, было пастаноўлена стварыць пры прэзыдыуме Ц. И. К. камісію, абавязкам якой было дбаць аб надзяленьні жыдоў зямлёю ў Б. С. С. Р. За 1925 і 1926 гады было аддана жыдом 15.268 дзесяцін зямлі і на гэнай плошчы было арганізована 103 арцелі і 23 пасёлкі, на якіх асела 1.147 жыдоўскіх сем'яў. Апроч таго, у агульным парадку надзелепа была зямлёю ў месцах іх сталага быцьця 372 жыдоўскія сямействы, а знача разам за 2 гады 1510 жыдоўскіх сямействаў асела на сельскіх гаспадарках. Плян Нар. Камісарыяту Земляробства на 1927 год прадугледжвае выдзяленьне жыдом яшчэ 5.000 дзесяцін прыгоднай зямлі і 2.000 дзесяцін прыгоднай часткова да сельскай гаспадаркі (ня лічачы зямлі надзеленай жыдом пры агульным земле-ўпарадкаваньні)".

З гэтага мы бачым, што камісія ня траціць часу дарма і працуе вельмі інтэнсыўна. Але гэта ня ўся яе праца. Вось, што аб надзеле жыдоў зямлёю ў гэным артыкуле пішацца далей:

„Побач з надзелам зямлёю жыдоў у межах Савецкае Беларусі, за апошнія два гады йшла праца аб перасяленьні жыдоў у іншыя раёны Савецкага Саюзу (ў Крым). За гэныя два гады (1926 і 1927) перасялілася з межаў Беларускай С. С. Р. ў Крым 1.063 жыдоўскія сямействы".

Але гэта ня усё, слухайце далей. „...перад Белкомземам і Н. К. З. паўстала пытаньне аб перадачы жыдом зямлі, застаўшайся пасьля вырубкі лесу—(пасекі) і балотаў. І Н. К. З. у месяцы марцы сёлетняга году пастанавіў выдзяліць для жыдоў 7.500 дзесяцін пасек і да 50.000 дзесяцін балот.

Да сёньняшняга дня ўжо з гэтага ліку надзелена 1.000 дзесяцін пасек у былым Рэчыцкім вокрузе і падлягае надзяленьню ў бліжэйшым часе яшчэ 5.000 дзесяцін пасек у Менскім раёне, а з назначаных 50.000 дзесяцін балот, вядзецца праца падгатоўчая для іх асушкі на абшары 15.000 дзесяцін".

Вось як дзеліць беларускую зямельку савецк ўрад Б. С. С. Р. і як ён дбае аб беларускім селянстве! Табе, браце беларусе, які з дзядоў-прадзедаў сядзеў на зямлі і абліваў яе сваім потам, калі зямелькі не хапае — дык едзь за дзесяткі тысяч вёрст у Сыбір, у краіну холаду і сьмерці, куды пасылалі калісь за кару цяжкіх праступнікаў.

На бацькаўшчыне для цябе няма зямелькі, няма для цябе зямелькі і ў Крыме, дзе клімат цёплы, дзе расьце вінаград, бо гэная зямелька патрэбна іншым, лепшым за цябе, грамадзянам першага сорту, якія ніколі не працавалі на зямлі. Вось як запраўды выглядае Савецкі рай, у які так заманваюць камуністыя нашае сялянства.

---

— Эт! — махнуў рукою Лукаш, і, спусьціўшы галаву, скіраваўся да дзьвярэй.

Выйшаў, сеў у свой воз.—„Паганяй!"—крыкнуў ён вазьніцы, закрываючы твар рукамі. За ім паехала і рэшта вясельнікаў. Апусьцеў, абязьлюдзеў паркоўны падворак.

— Дурная нейкая, нарачоная гэта, — казаў сьвяшчэньнік у царкве псалмістаму — гэткага сораму хлапцу нарабіла! Як яна ўцякла, дык быццам пярун даў у яго: стаў, як стоўп... Бедны! Але пайдзем — усё роўна няма чаго рабіць; вось толькі схаджу ў аўтар, пакіну рызы...

— Праўда, зьявішча нейкае нябывалае,—адказаў псалмісты.

Хутка абодва выйшлі з царкоўнага будынку, замкнулі яго на замок і скіраваліся кожны да свайго дому.

У вёсцы прыезду маладых чакалі з нецярплівасьцю; што мамэнт, малыя дзеці выбягалі далёка за вёску: „ці ня едуць!" Але вось ужо званчык чуцен. „Едуць, едуць!" разьняслося па вёсцы.

— Але чаму гэта ня чутно граючы?—пыталіся адна ў аднае бабы, стоячы на вуліцы і чакаючы маладых.

— Чакай, пад'едуць блізка да вёскі, дык тады і музыка заграе... Таксама і музыканту пальцы баляць!

Вось шалёна пранёсься па вуліцы воз, на якім павінны былі ехаць маладыя; але тамака сядзеў толькі адзін Лукаш, нізка-нізка спусьціўшы галаву.

„Што гэта"?!—пыталіся людзі адзін у аднаго.

Воз стаў каля Лукашовае хаты, і Лукаш выскачыў з яго і пабёг у хату, стараючыся не глядзець ні на каго.

„Што гэта? Чаму? Як?"—засыпалі яго пытаньнямі бацька і маці і сабраныя ў хаце госьці. Але ён не адказваў. Кінуў шапку ў кут, скочыў у прылеглы пакой, кінуўся на ложка і заплакаў глуханяўтрымана... Хутка вестка, што Лукашова нарачоная ўцякла з царквы, абляцела вёску. Доўга аб гэтым гаварылі, шкадавалі яго, дзівіліся, але ўрэшце запомнілі. Знайшліся іншыя, цікавейшыя тэмы для гутарак.

Прыйшла зіма і белай коўдрай сьнегу пакрыла зямлю. Розныя былі дні: ясныя, сонечныя, радасныя. Усім было весела тады. Але часта налятаў ха-

* * *

Дрэмле лес зялёны,
На палёх раса,
А ўжо зык сталёны
Шле у даль каса.

Песьняю шалёнай
Льлецца ён ў прастор,
Сілай незьмяронай
Б'е ўгару, да зор.

Крок за крокам сьмела
Ўперад йдзе касар;
Знае сваё дзела,
Ў задуменьні твар.

Пот цурком ліецца,
Ў мазалёх рука.
Праца паддаецца
Сілай мужыка.

І у даль нясецца
Звонка песьня кос.
Покатам кладзецца
Трава у пракос.

Цісьне ён бадзёра,
Упярод ідзе;
Скосіць ён і гора,
Не ўцячы й бядзе.

*Вітэблянін.*

# СОНЦА.

Ясна сонца сьвеціць з неба,
Ня мінае і наш край,
Роднай мовы нам патрэба
У каго ні запытай.
І нам школы роднай трэба,
Як-бы сонейка з нябёс,
Асьвяціць старонку цёмну
І палепшыць яе лёс.
Мы забіты цемрай вечнай
І ня бачым век сьвятла,
Усе людзі з нас сьмяюцца
І ня зробяць нам дабра.
Дык-жа возьмемся да працы
Ліхату і цёмру гнаць,
Як асьвецім край свой родны,
Ўсе нас будуць паважаць.
І тады засьвеціць сонца
Ў Беларускі родны край,
І з свае старонкі мілай
Пражанём чужы звычай.
Будзем мы мацнець патроху,
Як жалеза або сталь,
І пралoжым мы дарогу
У нязнану сабе даль.

*aperiwś.*

---

лодны паўночны вецер; выў ён, стагнаў і сьнегам засыпаў дарогі і замятаў усе сьляды, страшна было тады, ўночы асабліва. Але іншы раз выдарваліся і ясныя, зорныя або месячныя ночы, калі вецер злы недзе хаваўся,—„спаць ішоў“, як казалі старыя,—і шэрыя сьнегавыя хмары забіраў з сабой. Па вуліцы тады часьцей хадзілі, і песьню можна было чуць: моладзь весялілася.

Але Лукаш нікуды ня йшоў; усьцяж сядзеў у хаце. Туга страшная грызла яго; гаварыў ён рэдка і неўпапад; пахуд, зьбялеў, — куды й падзеўся даўнейшы вясёлы, здаровы дзяцюк! Барада нейкімі клоччамі лягла ў яго, вочы сьвяцілі хвараблівым, страшным сьвятлом. Бацька і маці, гледзячы на сына, ўздыхалі цяжка і ня ведалі, што рабіць яму, вазілі яго па розных шаптунох-знахарох, і да дактароў вазілі—нічога не памагала. Раз, раніцаю, маці Лукаша, прачнуўшыся, ўбачыла сына, седзячы конна на лаўцы; ён сьцябаў дубцом ногі яе і гаварыў: „но... пашла!“

— Лукаш, што гэта ты? — спыталася маці трывожна.

Але ў адказ ёй сын засьмяяўся дзікім ідыёцкім сьмехам. Бедная жанчына зразумела ўсё.

— Бацьку, ўставай!—будзіла яна мужа, горка плачучы.

— Ну-у... чаго там?—прамычаў муж, ня зусім яшчэ, відаць, расстаўшыся з сном.

— Сын здурэў, а ты, старая калода, ляжыш—устаць ня хочаш!

З бацькі сон як рукой зьняло. Скочыў мамэнтальна з ложка і падбег да сына. Узяў яго за плечы.

— Татку, што вы мяне трымаеце? Нашто я вам?—жаласным голасам загаварыў Лукаш.

— Эй ты, нясі кубак вады! — крыкнуў бацька жонцы.

— Нашто, калі я не хачу піць! — протэставаў Лукаш і раптам узяўся плакаць.

Бацька зьліў ваду сыну на галаву; той усьцяж плакаў. Бацька тады ўхапіў цэлае вядро вады і зьліў на сына; ён хрыпла зарагатаў і кінуўся вон з хаты, — бацька за ім. Але дзе старому дагнаць яго?! Вар'ят пераскочыў цераз плот і са шпаркасьцю ветру пабег па полі.

Доўга шукалі Лукаша; нарэшце, знайшлі яго

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## ВЫРАБА і СЯУБА АЗІМІН.

Пры вырабе зямлі пад азіміны, так сама, як і пры вырабе ўсіх расьлінаў, трэба помніць, што ўраджай залежыць ад гэткіх дзейнікаў: вады і паветра, якое зьмяшчаецца ў грунце, сьвятла і цяплыні, а ў канцы і ад колькасьці кормаў, якія расьліны знаходзяць у грунце, што, ў выпадку патрэбы, дастаўляем у відзе гнаёў.

Усе пералічаныя дзейнікі росту павінны дастаўляцца ў колькасьці, якой хапала-б для данае культурнае расьліны, а кожная расьліна мае ў гэтым сэнсе свае спэцыяльныя вымаганьві.

Разьмер ураджаю зьмяншаецца, значыць, пад ўплывам таго дзейніка, каторы перад аканчальным разьвіцьцём расьліны знойдзецца ў меншай, як трэба, колькасьці. Галоўнаю задачаю земляроба будзе — не дапусьціць да вычарпаньня таго ці іншага з дзейнікаў росту перад закончаньнем росту расьлін. Чым удачней патрапім рашыць гэтую задачу, тым большага дасягнём ураджаю.

У практыцы найчасьцей надходзіць застой у разьвіцьці расьлінаў па прычыне недахопу вады, якою трэба гаспадарыць вельмі ашчадна, не дапушчаючы да высыханьня і ашчаджаючы зімовую вільгаць. Паветра дапушчаем, падчас росту расьлін, шляхам адпаведнае мэханічнае вырабы, сьвятло рэгулюем патрэбнаю гушчынёю пасеву. Цяплыня залежыць, перш за ўсё, ад варункаў атмосфэрычных, аднак-жа мэтазгоднаю вырабаю і адвядзеньнем лішняе колькасьці вады, можам часьцёва пацяпліць грунт. Кормы дастаўляем у відзе натуральных або штучных гнаёў.

Бяручы пад увагу вышэйназваныя прынцыпы, перайдзём да абгавораньня варункаў разьвіцьця найболей распаўсюджанае ў нас азіміны — жыта.

Ж ы т а — расьліна мала пераборлівая, як у сэнсе палажэньня ў плалазьмене, так і ў сэнсе гнаёвых вымаганьняў. Разьвіваецца пры параўнальна нізкай тэмпэратуры, абы толькі загадзя адвясьці лішку зімовае вады. Зямля пад жыта павінна быць падрыхтована загадзя, бо павінна быць тугая, адляжалая. У практыцы прыняты прынцып, што паміж апошняю арбою і сяўбою павінна прайсьці ня менш, як 4 — 5 тыдняў. Аднак-жа, часта выпадае сеяць жыта па сарадэлі, лубіне, па зборы канюшыннае атавы, альбо на бульбішчы. У гэтым выпадку ня можа быць гутаркі аб датрыманьні 5-тыднёвага сроку па адляжаньне.

Гаспадар, ня хочучы спазьніцца з сяўбою, якая павінна быць рашуча зроблена ў часе ад 10 да 20 верасьня, сее жыта ў неадляжалую зямлю. У гэтым выпадку, аднак-жа, можна знайсьці раду, ня позьнячыся з сяўбою.

Блізка, што ў кожнай дворнай гаспадарцы можна ўбачыць гэт. званы валак Kampeballa, якога, аднак-жа, дробная ўласнасьць ледзь што й ня ведае. Гэткая простая і нескомбінованая прылада вырабляе проста цуды пры позных асеньніх орбах пад жыта. Бо гняце ніжнія слаі, адначасна крышачы паверхню. Хопіць раз толькі пераканацца ў карыснасьці гэтае пры-

---

ў лесе, аслабеўшага з голаду. Ня жарт: два тыдні нічога, відавочна, ня еў. Пачалі яго лячыць зноў бацькі, але надарэмна. У вёсцы доўга гаварылі аб гэтым, але ўрэшце перасталі; усе прывыклі да таго, што ў вёсцы ёсьць вар'ят. Дзеці малыя падрачвалі яго і разьбягаліся, хто куды, калі ён часам хапляў камень.

---

Прайшло гэтак трыццаць гадоў. Бацькі Лукаша даўно памёрлі, а гаспадаром стаў муж іх дачкі Ганны. Вар'яту адвялі памяшчэньне, дзе ён рабіў, што хацеў. Цёмна тамака было, дымна. Па вокнах паўчына вісела і амаль зусім іх закрывала. Мышы сярод белага дня і ў прысутнасьці гаспадара, — вар'ят іх нечапаў,—гайсалі, як хацелі. Калі-не-калі лазілі нават на яго... Небарака быў-бы падобны да чорта, калі-б не сястра: яна яго адзявала, мыла порцё, стрыгла яму валасы, ўжо зусім пасівеўшыя, і бараду... Вясковыя дзеці называлі яго „Авечкай" і зьдзекаваліся над ім, як толькі маглі.

Ніводзін раз вар'ят ня плакаў і нічога не ўспамінаў сам аб сваёй калішняй нарачонай. Калі нават хто-нібудзь пачынаў з ім гутарку аб гэтым, дык ён звычайна адказваў: «Хе-хе! Што там гаварыць аб ёй, калі яна вось ужо сто гадоў як у небе...»

Раз ён сядзеў на камені перад хатай. Нейкі чалавек з жонкай праяжджаў каля яго. „Добры дзень!"—зьвярнуўся ён да сядзеўшага Лукаша. Але той не адказаў нічога; толькі ўхапіў вялізарны камень і, заскрыпеўшы зубамі, з страшэнна зьмененым тварам, кінуў яго ў сядзеўшую жанчыну; тая ўхілілася і камень упаў далёка за возам. Зьбегліся людзі.

— Вы нічога яму не рабеце: гэта вар'ят, — казалі людзі чалавеку, які абураным голасам грозіў, што падасьць у суд, — нарачоная ягоная ўцякла з царквы перад шлюбам, ад таго ён і здурэў...

— Едзем, Раман, едзем! — раптам крыкнула жанчына, у якую вар'ят кінуў камень. А сама белая, як сьнег. Муж сеў, удэрыў па кані і воз паехаў.

... Лукаш ляжаў у хаце на зямлі і плакаў ціха. Усё цела яго ўздрыгвалася.

— Лукашка, чаго гэта ты?—пачала супакойваць яго сястра, увайшоўшая ў хату.

— Гэта мая... тая... ўцякла... — прастагнаў Лукаш.

**Сяргей Белайц.**

лады, каб прыйсьці да поўнасьці, што гаспадараньне без яе — немагчымае. Перш чым пачнём сеяць жыта, трэба добра затрымацца на выбары збожжа для пасеву. Жыта—расьліна чужапыльная, гэта знач., што яно заплоджваецца толькі пылком з чужога цьвету, дык і крыжуецца вельмі лёгка, пры чым колас робіцца кароткім, а зярня драбнейшым. Няма іншае расьліны, якая гэтак хутка выроджвалася-б, як жыта. Дзеля гэтага, трэба жыта часта зьмяняць, асабліва там, дзе землі нескомасаваны, а розныя гатункі жыта расьсеяны доўгімі шнурамі адзін пры адным. Ашчаднасьць у гэтым выпадку ёсьць не на месцы, трэба сабе ўцяміць, што, сеючы і зьбіраючы благое збожжа, робім крыўду ня толькі сабе, а і ўсяму краю. З відаў шляхотных вядомым ёсьць жыта „Пэткус". Маем таксама некалькі добрых краёвых відаў, як напр.: Данькоўскае жыта, Вержненскае і інш.

Пры сяўбе ўласным збожжам мусім яго добра ачысьціць. Калі трэба нам 5 м. жыта для сяўбы, дык трэба мець 15 м., з якіх пры колькіразовым чышчэньні высартуем 5 м. найлепшага насеннага збожжа. Рэшта — 10 м. — заўсёды яшчэ зьяўляецца добрым купецкім збожжам.

Цяпер, калі ўжо можам мець дзяржаўны крэдыт на купляньне машынаў, не павінна быць а ніводнае вёскі, якая ня мела-б добрага трыеру і арфы дзеля чышчэньня насеннага збожжа.

Сама сяўба павінна быць раньняю. Усё разьвіцьцё, як куставаньне, устанаўленьне завязі будучага коласу, дае рэзультат ужо ўвосень. Паводле дасьведчаньняў, з аднаго зярняці, пасеянага ў пачатку верасьня ў добрых варунках, можа распусьціцца аж 20 здаровых сьцяблін, з якіх кожная вытварыць нармальны колас; замест гэтага, пры сяўбе ў канцы кастрычніка з гэткіх самых варункаў вырастае 5 сьцяблін. Значыцца, чым раней сеем, тым менш высяваем зярнят—тым радчэй сеем.

Нельга тут забываць, што ручная кідальная сяўба — у цяперашнія часы — марнатраўства, якога нельга даравапь. Набыцьцё сеялкі, пры цяперашніх крэдытных палёгках, зьяўляецца проста карыснай справаю. Лічачы толькі 40 га пад засеў увосень, ашчаджаем 40 мэтраў збожжа, бо вядома, што пры сяўбе радамі ашчаджаем прынамсі 100 кілёграмаў на га.

Пры сяўбох радамі на добра ўгноеных землях адлежнасьць паміж радамі хістаецца каля 20 сантымэтр., а пасеў пры гэтай шырыні не павінен перавышаць 100 кілёгр. добрага, здаровага і добра ачышчанага збожжа на 1 га.

Колькасьць пасеву напэўна можна будзе яшчэ паменшыць, аднак-жа радзім пачакаць рэзультатаў у гэтым сэнсе, або яшчэ лепш самому на малых кавалках зрабіць старанлівыя спробы. Мы пераконаны, што некалькі ахвотлівых, спаміж малодшых земляробаў, заўсёды знойдзецца. Тут справа йдзе, галоўным чынам, аб выкарыстаньні сьвятла і ашчаджэньні вады, як важных дзейнікаў у разьвіцьці расьлін. Чым меншая колькасьць расьлінаў знаходзіцца на даным абшары, тым надаўжэй хопіць запасу вады ў зямлі і тым лепш расьліны могуць карыстацца сьвятлом. Выразны прыклад мы мелі у лонскім годзе, калі наагул зялёныя жыта ў працягу 10-дзённых сьпякотаў у першыя дні ліпня дасьпелі адразу. А цікава, што густы, хоць і пазьнейшы засеў жыта дасьпеў на некалькі дзён раней за рэдкія, хоць і ранейшыя. У першым выпадку жыта было дрэннае з вялікай колькасьцяй пасьледу, у другім — буйнешае без пасьледу. Проста, не хапіла вады дзеля нармальнага дасьпеньня зярнят пры густых пасевах. Там, дзе па розных

# Аб патрэбе грамадзкага ўзгадаваньня.

Сялянства зьяўляецца найбольш консэрватыўнай клясай. Яно, як ніводная другая кляса прывязана да традыцыяў дзядоў і бацькоў. Нярэдка чуем на вёсцы пагаворку: „даўней лепш было" Усялякія-ж бываюць традыцыі і старадаўныя звычаі. Адным з іх, які дагэтуль, ня гледзячы на рэвалюцыі і вялікія соцыяльныя падзеі, зьяўляецца прыніжанасьць, прыбітасьць селяніна, які заўсёды воляй ці ня воляй ахвотна ставіць сябе ніжэй пры сустрэчы з чалавекам, выходзячым з другое соцыяльнае групы. Адносіны селяніна да абшарніка, духоўніка, валаснога пісара або старшыні, паліцэйскага ўрадніка і дагэтуль ад'зываюцца далёкім мінулым. І дагэтуль можна бачыць старога селяніна бяз шапкі перад панам ды паліцыянтам; і цяпер яшчэ сялянства нашае ня мае пачуцьця грамадзкае вартасьці свае. Прайшла, згінула даўно паншчына, адышлі ў мінуўшчыну часы, калі сялянства было асобнай клясай, з сваімі асобнымі правамі, якіх было надта мала, калі мужыцкія дзеці ня мелі доступу да вышэйшых і сярэдніх школаў, — прапала нашчасьце ўсё гэта разам з царамі, аднак псыхіка— спосаб думак, адносіны да людзей і ўраднікаў асталіся ў сялянстве даваенныя. Стыдна робіцца калі відзіш, як старык, сівы гарапашнік у пояс кланяецца ды рукі цалуе панскай дачцы, ці каханцы, або валасному пісару. Моладзь, новае пакаленьне, пачынае адчуваць агіднасьць такога паніжэньня, але вось ці, пастарэўшы, не пайдзе ўсьлед за бацькамі і дзядамі? Праўда, гэткім лізаньнем рук селянін просіць заўсёды нечага, нейкай ласкі, найчасьцей таго, што яму па праву і справядлівасьці належыць. Але „панскай ласкі толькі, як ад дзьвярэй да парога", кажа разумна народная пагаворка. Дый недалёка, сапраўды, гэнай ласкай панскай даедзеш. Ласкі, выгады за грош, а паніжаецца, топчацца ў гразь вартасьць чалавека.

Селянін наш дагэтуль мала адчувае новы праўны лад дзяржавы, новае палажэньне свае, як грама-

прычынах трэба сеяць рукою, нельга высяваць больш, як 140 кілёгр. добрага жыта на 1 га, паколькі пэўна-ж сяўба была даволі раньняя. У гэтым выпадку вельмі карысна будзе баранаваньне жыта вясною.

Пры сяўбе радамі ўжываецца драпакаваньне, паміж гэтых радоў, спэцыяльнымі драпакамі, шырынёю на 15 — 16 сантымэтраў. У выпадку немагчымасьці выпаўненьня гэтых работ, хопіць і бараны. Шкоды, зробленыя бараною, зьяўляюцца мінімальнымі, а карысьць ад спульхненьня паверхні і перарыву выпарваньня вады ёсьць значная.

У сэнсе гнаеньня—жыта зьяўляецца мала вымагальным, аднак-жа, хочучы выкарыстаць вымаганьні жыта, датычна колькасьці вады і адносна нізкае ступені цяплыні, трэба старацца, каб было даволі кормаў, дзеля таго, каб паводле права мінімум выкарыстаць гэтыя два дзейнікі.

Хлеўнага гною трэба ўхіляцца, таму што жыта ня можа ў працягу кароткага і шыбкага росту на вясну, выкарыстаць пажыўных складнікоў разложанага гною. Апрача таго, хлеўны гной спульхняе зямлю, а жыта лёгка вымярзае пры асяданьні зямлі. Гэта самае можа надыйсьці і пры позным заараньні зялёных гнаёў. Але і за рапа прыараную сарадэлю ці лубін,—жыта вельмі ўдзячнае, асабліва на лягчэйшых землях. У гэтым выпадку добра будзе даць каля 200 кілёгр. тамасоўкі і 200 кгр. каініту на гэктар, даволі рана перад сяўбою, пры познай вырабе перад камбеляваньнем. На вясну вельмі рана даць да 50 кгр. содавае салетры, галоўным чынам, з мэтаю падняцьця да інтэнсыўнага разьвіцьця.

## Як трэба зьбіраць і сушыць грыбы.

Кожны гаспадар ці гаспадыня, калі ўжо пачнецца грыбная пара, з прыемнасьцю знаходзе сабе час, каб схадзіць у грыбы. Работа гэтая прыемная, а таксама і карысная для гаспадара. Насушыўшы грыбоў даволі, гаспадар мала дбаець, як пражыць пост. Чаго з грыбоў ня зробіш? і пірог і суп. Далоў, здаецца, і мяса! Ведама, ня кожны гаспадар маець скароміны на ўвесь год, дык грыбы якраз замяняюць гэты недахоп скароміны, а калі гаспадар і багаты на скароміну, то ўсё роўна постам зласавеець. Як відаць, грыбы прадукт карысны, дык трэба ўмець іх зьбіраць і сушыць, каб грыбы мелі свой натуральны смак. Ад няўмелага зьбіраньня і сушкі грыбоў, яны губляюць дабрату, бо будуць то перапаленыя, то з засушаным сьмяцьцём, а то і зусім укачаныя ў попел. Гэткая работа нічога няварта. Каб мець добрыя грыбы, трэба з пачатку зьбіраньня іх умела з імі абходзіцца.

Перш за ўсё, заўважым тое, што ўсялякія грыбы, якія толькі ўжываюцца ў яду, можна сушыць. Калі зьбіраем грыбы ў лесе, дык глядзем, каб кожны грыб класьці ў кошык зусім чыстым, каб дома ізноў не перакладваць ды не ламаць іх. Прыгожымі выйдуць грыбы з сушкі, калі будуць ставіцца ў сушку зусім цалюткімі — неабабітымі. Пры зьбіраньні грыбоў, кошык каб быў з накрыўкаю, каб не папала ў чыстыя грыбы шума з гальля дрэваў. Класьці грыбоў у кошык можна столькі, каб была магчымасьць зачыніць кошык, ня прыцісьнуўшы крэпка грыбоў, бо ад гэтага грыбы хутка могуць пачарнець і загніцца. Гатовыя для сушкі, чыстыя ад сьмяцьця грыбы выбіраем з кошыка і ўсторкваем на шпількі, якія нарыхтоўваюцца раней для гэтай мэты і ставім грыбы ў печ. Робіцца так: бяром ліст бляхі хоць і старой, велічынёй, прыблізна, каб магла ўлэзіць упеч, загібаем берагі, так, каб яны былі вышы-

дзяніна, які прызнаецца па закону роўным з другімі грамадзянамі, хоць тыя багацейшыя, сытыя ды адзетыя. І хоць эканамічна цяпер сялянства абгалела, дзеля шмат якіх прычынаў жыцьця, аднак-жа селянін мае тыя самыя правы, што і яго багаты абшарнік, ён такі-ж самы грамадзянін Рэспублікі, як усе другія. Цяпер ужо няма праўнага падзелу на клясы—шляхта, мяшчане, сялянства, з асобнымі для кожнае клясы і групы правамі і вопраткай, як было за цароў. Ёсьць і цяпер падзел на эканамічныя групы, ці клясы—бедных і багатых, тых, што даюць сваю працу і тых, якія яе купляюць за марныя поўзлатоўкі, істнуе падзел на паасобныя групы, якія розьняцца спосабам здабываньня сабе куска чорнага хлеба: сяляне, работнікі, ўрадоўцы з аднаго боку і невялікая група багачоў: фабрыканты, абшарнікі, капіталістыя-банкіры, так як было і за даўных, як кажуць, добрых часоў, аднак у адносінах да дзяржавы і праваparадку ўсе цяпер, згодна з істнуючымі ў Польшчы законамі, лічацца роўнымі. Беларускі селянін і работнік павінен добра ведаць гэта, тады мо' ня будзе такім прыгнечаным, крыўджаным і перастане ўніжацца.

Праўнае палажэньне працоўнага беларускага сялянства ў Заходняй Беларусі апіраецца на Конституцыі 17 сакавіка 1921 году. 96 параграф Конституцыі, якая зьяўляецца найвышэйшым, першым і галоўным законам у Польшчы, устанаўляе роўнасьць усіх грамадзян. „Усе грамадзяне зьяўляюцца роўнымі перад правам". Гэта значыць, што цяпер адно і тое самае права павінна стасавацца да ўсіх грамадзян, бяз розьніцы клясы, занятку, рэлігіі і нацыянальнасьці. З гэтага вынікае, што адзін і той самы суд судзіць і абшарніка і селяніна, і рабочага, усе падлягаюць аднолькавым уставам. Кожны грамадзянін Польшчы, ці то паляк, ці беларус, абшарнік-багач, ці малазямельны хлебароб маюць адну і тую самую вагу, калі выступаюць, як грамадзяне, выбіраючы паслоў у Сойм, ці радных у валасныя рады. Гэты самы 96 параграф далей кажа: „Публічныя ўрады зьяўляюцца ў роўнай меры для ўсіх даступнымі на варунках, прадпісаных правам". З гэтага выходзіць, што займаць урадовыя становішчы маюць права і беларусы, калі маюць вымаганую асьвету і веду, якая патрэбна для ўрадоўца.

ней у вяршок. Калі гэта ўсё зроблена, накладаем на бляху да краёў густой гліны. Цяпер утыкаем у гліну шпількі. Шпілек утыкаем столькі, каб паміж іх клалася далонь рукі. Вышыня шпілек будзе ў залежнасьці ад вышыні чалесьніка ў печы. Гэткая прылада для сушкі грыбоў ёсьць самая выгаднейшая, бо грыбы паўзьдзяваныя на шпільках сохнуць дужа скора, незалежна грыб ад грыба, сам па сабе, ў значнай колькасьці, і не абрабляюцца ў попел ці ў салому, калі падсьцілаюць у печы і сыплюць на яе грыбы.

Ня дзіва, што грыбы гэткія маюць натуральны смак і на выгляд прыгожыя.

Калі-б хто ўздумаў гэткія грыбы прадаць, дык цана будзе куды большая.

Як трэба мачыць грыбы, каб яны былі прыгоднымі для яды ўвесь год, пазьней крыху напішу і аб гэтым.

*Янка Тарыкоў.*

## Пераходныя пазычкі ў гатоўцы.

Мы ўжо пісалі аб доўгасрочных пазычках і паказвалі на тое, што, нязначная часьць дробных земляробаў, якія патрабуюць крэдыту, можа гэтым крэдытам карыстацца, бо вялізарная колькасьць ня мае выкліканых гіпотэкаў, без чаго нельга адтрымаць доўгасрочнае пазычкі. Усё гэта, разам узятае, проста адстрашвала дробных земляробаў ад стараньняў дастаць крэдыт, ня глядзячы на тое, што палючых патрэбаў у гаспадарцы ёсьць гэтак шмат і яны гэтак неабходныя, што немагчыма і думаць аб поступе і культуры вёскі, калі няма і страхі над галавою, няма магчымых гаспадарчых будынкаў, альбо калі выстаўлены будынкі пры падмозе пазычак, зробленых у прыватных асобаў, бо тады проценты зьядаюць увесь даход ад гаспадаркі. У гэткім выпадку абмяжоўваем свае патрэбы да мінімуму, паўстае неахвота да якіх-колечы пачынаньняў, што маюць на мэце падняць гаспадарку, жывём заўсёды пад знакам вечнага страху перад ліцытацыяй гаспадаркі.

Трэба дзівіцца вялізнай вытрываласьці і здольнасьці ў абмяжоўваньні сваіх патрэбаў, калі ўзяць пад увагу, што сярод дробных земляробаў выпадкі поўнае руіны, па прычыне празьмернага задаўжаньня, зьяўляюцца вельмі рэдкімі. Здольнасьць датарноўвацца да найгоршых варункаў зьяўляецца добраю, пакольні гэта — пераходная праява, але калі пераходзіць у прывычку, дык робіцца вельмі небясьпечнаю. Шмат ёсьць у вёсцы гэткіх гаспадароў, аб якіх кажуць „чым багацейшы, тым скупейшы". Гэта — пераважна такія гаспадары, якія калісь былі ў вялікай галіце і гэтак прывыклі да вечнага абмяжсўваньня сваіх патрэбаў, часта й без патрэбы, што гэта перайшло ў хваробу. Ізноў-жа гэткае разуменьне, што павінна быць добра так, як ёсьць, не зьяўляецца штурхачом да здабыцьця лепшае будучыны. Чалавечая энэргія слабее і гіне, тады, калі ў працягу доўгага часу ня мае штурхача і падмогі дзеля таго, каб пачаць творчую працу,

Нашая вёска пасьля вайны выявіла вялікую жывучасьць, адбудоўваючы зьнішчаныя земляробскія варштаты, аднак жа сёньня без падмогі цяжка ўтрымацца.

Дзеля гэтага, пераходныя пазычкі ў гатоўцы, якія дае Дзяржаўны Зямельны Банк, можа і будуць тым „залатым дажджом", што асьвежыць жыцьцё на вёсцы і пабудзіць да інтэнсыўнае працы над падняцьцем прадукцыйнасьці зямельных варштатаў. Добра ведаем, як цяжка дробнаму земляробу бароцца з усялякімі фармальнасьцямі, якія зьяўляюцца неабходнымі пры крэдытных справах і дзеля гэтага мы інформуем чытачоў, каб палягчыць карыстаньне крэдытам і папярэдзіць гэтым розныя непаразуменьні і няпрыемнасьці, якія маюць месца.

Пераходныя пазычкі даюцца гэткім гаспадаркам, якія ня перавышаюць 35 га ўва ўсходніх ваяводзтвах. Гэтае абмежаваньне абшару зьяўляецца неабходным дзеля таго, што пазычкі гэ-

---

Далей у гэным-жа 96 пар. чытаем: „Польская Рэспубліка ня прызнае радавых і станавых прывілеяў, як роўна й ніякіх гэрбаў, радавых і іншых тытулаў".

Такім чынам, паводле Конституцыі, бышая шляхта, абшарніцтва ў нас, цяпер зраўняна праўна цалком з сялянствам, бо „радавыя тытулы і гэрбы" ня маюць ніякае вагі і не даюць дзеля гэтага асаблівых прывілеяў. Параграф 102 Констытуцыі кажа „праца, як галоўная аснова багацьця Рэспублікі, мае быць пад асабліваю абаронаю Дзяржавы". Констытуцыя кладзе тут націск, што падставай багацьця дзяржавы зьяўляецца праца. Дзеля гэтага працоўны народ, а такім ёсьць у першай чарзе сялянства, прызнана клясай, якая побач з іншымі працоўнымі клясамі, як работнікі, ўрадоўцы, працоўныя інтэлігэнты, зьяўляецца апорай Рэспублікі. Як відзім, з гэтых двох параграфаў Конституцыі сялянства мае загарантованае высокае становішча з праўнага боку ў Польшчы; яно ня толькі не пастаўлена ніжэй, а вышэй усіх тых групаў насельніцтва, якія не ўкладаюць сваё працы ў жыцьцё дзяржавы. „Мазоль — працавітых значок", — казаў бацька нашага адраджэньня, Францішак Багушэвіч. Асноўны закон, на якім павінна апірацца ўсё жыцьцё ў Польшчы, сьцьвярджае дабітна запраўднасьць слоў нашага песьняра. Ня вопратка, ня высокае становішча, не багацьце, а праца павінна сьведчыць аб вартасьці грамадзяніна, які сваею працаю ўзбагачвае і сябе і дзяржаву.

У Польшчы каля 80% усяго насельніцтва — сяляне. Яны будуюць, галоўным чынам, дзяржаву, ці то плацячы падаткі, ці даючы сваіх дзяцей у войска, якое зьяўляецца азнакай сілы дзяржавы; ў часе вайны сяляне і работнікі, галоўным чынам, складаюць для дзяржавы ахвяру з найдаражэйшага свайго скарбу-жыцьця і крыві. Сяляне, ўрэшце, штодзенный сваей працай куюць дабрабыт і моц дзяржавы. У нашыя часы не жалеза, ня сталь, а працавітасьць, добра наладжаная праца ўва ўсіх слаёх насельніцтва, зьяўляюцца моцай дзяржавы.

Усё гэта нашае сялянства, якое становіць пераважную большасьць насельніцтва Заходняе Беларусі,

тыя маюць быць сконвэртованымі на доўтасрочны крэдыт, а дзеля адтрыманьня доўгасрочнага крэдыту гаспадаркі, большыя за 35 га ўва ўсходніх ваяводзтвах, павінны справоджваць таксатара. Дзеля таго, што без урэгуляваньля гіпотэкі прыезд таксатара быў-бы лішнім, дык зроблена гэтага роду абмежаваньне, ў рэзультаце чаго толькі дробныя гаспадаркі могуць карыстацца гэтым крэдытам.

Пазычкі будуць выдавацца на тыя самыя мэты, што й доўгасрочныя пазычкі. Што датычыць пазычак на будоўлю, дык зроблена абмежаваньня, якое выключае адтрыманьне пазычкі, калі будынкі будуць паложаны бліжэй як за 25 м. ад суседніх будынкаў. Дзеля таго, што ў вёсках з нескомасованай зямлёю будынкі паложаны адзін пры адным, дык адтрыманьне пазычкі для большасьці гэткіх гаспадарак — рэч немагчымая. Гэткім спосабам пасрэдна прымушаюцца землярobы да сцаляньня зямлі. Нажаль, зямельныя ўрады вельмі доўга вядуць справы комасацыі: ёсьць выпадкі, што прашэньні аб комасацыі ляжаць па некалькі гадоў. Дык і могуць мець месца гэткія выпадкі, што землярobы, ня гледзячы на вялікія стараньні, ня маюць яшчэ сцэленай зямлі і ў рэзультаце ня могуць адтрымаць пазычкі.

Пазычкі гэтыя маюць палягчыць урэгуляваньне гіпотэкаў, бо таго, хто пазычае, да гэтага абавязваюць гадавым срокам.

З адтрыманае гэткім спосабам пазычкі будуць кошты на выкліканьне гіпотэкі. Гэтае трэбаваньне можа адносіцца ізноў-жа толькі да сцэленых гаспадарак, бо на нясцэленыя землі вельмі цяжка і няма мэты рэгуляваць гіпотэку. Ізноў справа апіраецца аб пасьпешнасьць у сцаляньні зямельнымі ўрадамі, бо для большасьці землярobаў гэтыя пазычкі будуць грушкаю на вярбе.

Важная рэч — справа паручыцеляў, на што тут і хочам зьвярнуць увагу. Ведаем, як дробныя землярobы асьцярожныя ў рабленьні даўгоў, а тым больш у паручыцельстве. Мамэнт узаемнае падмогі сярод заможнейшых землярobаў ледзь ня зусім загінуў. Кожны стараецца ўхіляцца ад падмогі суседзяў і гэтак сама неахвотна дае яе сам. Яшчэ бачым гэтак званыя „толакі“ — стары звычай, які застаўся з вельмі даўных часоў, калі ўзаемападмога іграла найбольшую ролю ў гісторыі цывілізацыі. Пазьней, па прычыне заўсёдных войнаў, паўсталі ненармальныя адносіны сярод людзей, абапёртыя на гвалце і брыдкім штурханьні лакцямі. Наша вёска шмат яшчэ захавала даўных прыгожых звычаяў, якія сьведчаць аб тым, якую калісьці важную ролю іграла ўзаемная падмога.

Паручаньне за гарэлку — вельмі паганы звычай, гэта трэба абапёрці на зразуменьні ўзаемнае падмогі, як на нязьмерна важны дзейніку для разьвіцьця коопэратывізму на вёсцы.

## Гаспадарчыя парады.

### Добрае лякарства на ліхаманку (трасцу) і малярыю.

У некаторых паветах нашага краю пашыраюцца хваробы — ліхаманка і малярыя. На гэтыя хваробы ёсьць добрыя лекі, якія вынайшоў д-р Чычагов, і якія былі выдрукованы ў расейскай прэсе. Гэта ёсьць так званыя „Падсоўнечныя Каплі“, якія найлягчэй сабе прыпасьці цяпер, бо якраз у цяперашні час гэта лякарства найтаньнейшае і яго ў сябе кожны гаспадар можа мець.

Прыгатаўляецца яно гэтак: трэба пасекчы дробненька галоўку падсоўнечніка з маленькімі зярняткамі, цьветам і сярэдзінаю ды наліць 95 працэнтным чыстым сьпіртам; на адну унцыю сьпірту трэба даць 1/20 часьць фунта падсоўнечніку, ці інакш на 1 ф. 10 лотаў сьпірту даваць 1 фунт падсоўнечніку; пляшку моцна заткнуць коркам і паставіць на сонцы альбо ў цёплым месцы. Пасьля 6 дзён трэба перафільтраваць (працадзіць) і лякарства гатовае.

---

павінна добра зразумець і вымагаць ад усіх для сябе пашаны, якая вынікае з Канстытуцыі.

Усе працоўныя групы насельніцтва павінны карыстацца аднолькавай пашанай. І работнік, і працоўны інтэлігэнт, і ўрадовец, бо ўсе яны ў наладжаным прабегу дзяржаўнае гаспадаркі патрэбныя і спаўняюць свае абавязкі. Ня можа быць перавагі якое-небудзь працоўнае групы, бо тады жыцьцё дзяржавы ламаецца, ды й сама дзяржава хварэе, ня мае моцы і ў канцы гіне. А яшчэ горш, калі непрацоўныя клясы верхаводзяць у дзяржаве, як некалі ў Польшчы шляхта, што карміласа потам ды крывёю сялянства. Лёс яе вядомы. Бясьсільную, збудованую на бязладзьдзі разабралі суседнія дзяржавы. У савецкай Расеі фабрычныя работнікі, а вярней частка іх — камуністыя занялі такое-ж палажэньне, якое мела некалі польская шляхта. Усе другія групы, усе інакш думаючыя грамадзяне зьяўляюцца грамадзянамі другое катэгорыі і ня маюць ніякага ўплыву на жыцьцё дзяржавы. І бачым, што дзеля гэтага найбагацейшы край, у якім на месцы велізарныя багацьці, ня можа вылечыцца ад ранаў вайны і наладзіць свайго жыцьця.

Сялянства, як адна з найбольш чысьленых клясаў насельніцтва ў Заходняй Беларусі, ня можа дагэтуль думаць так, як думалі нашыя дзяды, калі за борзага шчанюка давалі некалькі сялян.

Працоўныя сялянскія масы, апіраючыся на загарантаваныя ў польскай канстытуцыі свае правы, павінны высока цаніць сябе, як клясу, роўную іншым працоўным клясам ды бяз меры вышэй пастаўленую за тыя непрацоўныя адзінкі, што жывуць здабытым іх продкамі праўдай і няпраўдай дабром.

Ведама, права пішацца дзеля таго, каб ім карыстацца, каб, апіраючыся на законам забясьпечаныя свае правы, іх дамагацца, і дабівацца належнага сабе палажэньня. Бо Канстытуцыя, хоць-бы найлепшая, ня дасьць гэнае праўнае свабоды, калі сам народ ня будзе дамагацца таго, што яму належыць.

*Саўліч.*

Ужываць лякарства трэба вось як: на 1 ф. 3 лоты пераваранае вады трэба ўліць 7 лотаў лякарства. Гэтых капляў даваць хворай скаціне ад 20 да 50 штодзенна. Чысты сьпірт трэба купіць у аптэцы.

### Кармленьне куранят.

Як першы корм, трэба даваць куранятам яечны сырчык (у шклянцы малака добра разьбіць цэлае яйцо, пасьля ў рондальчыку падаграваць на агні, аж пакуль ня скіпіцца, затым адцадзіць праз ганучку і, зьмяшаўшы з надробна патоўчанаю лупінаю яйца, даваць куранятам). Ужо ў першыя дні, апрача яечнага сырчыку, трэба пакрысе падсыпаць мешаніны, зложанае з сырых круп і дробна пакрышанае зяленіны.

Праз тыдзень замяніць дарагі яечны сырчык адтопленым малаком, якое ў відзе тваражку, замешанага пшанічнымі вотрубямі, крупамі і пакрышанаю зяленінай, даём куранятам. Побач з гэтым кормам даваць дробнае насеньне проса, канапель, а па меры разьвіцьця іх — разьмеленыя зярняты ячменю і пшаніцы.

І толькі тады, калі кураняты маюць ужо больш, як 4 тыдні, пачынаем ім даваць пакрысе вараную бульбу з пшанічнымі вотрубямі, альбо пасечаны ячмень, авёс, ці зяленіну—усё гэта закрашваем адтопленым малаком або быдлячай юшкаю. Да гэтага корму трэба дадаць тоўчаных касьцей і яечнае лупіны. Увечары даваць збожжа.

Усялякія мясныя абрэзкі, хрушчы і іншыя авадні, сьлімакі, чэрві — вельмі добры дадатак да корму.

Спачатку кураняты трэба карміць 5 разоў у дзень, а пасьля 4-х тыдняў 4 разы ў дзень.

Корму ня трэба рабіць у неразьмерных колькасьцях, бо ён будзе кіснуць і выклікаць хваробы. Дзеля лепшай страўнасьці трэба стаўляць куранятам у карытцы дробны жвірок, а таксама і дзеравяны патоўчаны вугаль.

Піць куранятам лепш даваць малако, як ваду, аднакжа трэба памятаць, што можна даваць малако толькі зусім сьвежае салодкае альбо кіслае, але падкісшае вельмі шкоднае для куранят.

Калі ёсьць пагода і цяпло, дык ужо праз некалькі дзён па выхадзе з яец кураняты можна выпушчаць на сьвежае паветра. Вельмі гарачыя праменьні шкодзяць здароўю куранят, дзеля гэтага месца іхняга выбяганьня павінна быць зацененым.

### Як вымыць бочку пад гуркі альбо капусту, каб яна была чыстая і ня мела паху.

У бочку сярэдняе велічыні трэба ўсыпаць $^1/_2$—кілёгр. нягашанае вапны, наліць у бочку болей чым палавіну вады і мяшаць, пакуль вапна не распусьціцца. Калі бочка шчыльна накрываецца накрыўкаю, добра яе тады пакачаць з паўгадзіны па зямлі. Вапна выгрызе ўсякі бруд. Праз дзень, або два вапну трэба выліць і бочку некалькі разоў выпаласкаць чыстаю вадою. Такім спосабам можна вымыць і вычысьціць бочку нават і з-пад газы.

### Як заклеіць дзеравяную бочку, калі яна цячэ?

У гаспадарцы часта здараецца, што бочка, цэбрык або іншая дзеравянная пасуда пачынае цячы. На гэта ёсьць рада. Пасудзіну такую можна хутка і нядорага паправіць. Трэба ўзяць 3 лоты (6 дэкаграмаў) шмальцу — 3 сьвінога сала, столькі-ж (3 лоты) звычайнае кухоннае солі і $1^1/_2$ лота ($3^1/_2$ дэкаграмы) воску; ўсё гэта паставіць у печ у вольны дух і мяшаць. Калі маса гэная распусьціцца, тады ўсыпаць да яе 2 лоты (4-5 дэкаграмаў) прасеянага попелу з печкі, ізноў усё гэта мяшаць. Адтрыманай гарачай мешанінай трэба замазваць месца, куды цячэ вада, ці то дно, ці клепкі ў бочцы. Калі замазанае месца засохне,—будзе моцна трымаць і не прапусьціць вады.

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Парадак жыцьця жанчыны, якая корміць грудзьмі.

Мы ўжо ведаем, як павінна старацца кожная маці, каб магла выкарміць грудзьмі сваё дзіця ў працягу першага году жыцьця. Ведаем, што ніякія парашкі і хваленыя прадаўцамі аптэчныя прадукты (фосфатына) ня могуць раўняцца з грудзьмі, а тым больш замяніць іх. Аднак-жа, трэба гэтак улажыць сабе жыцьцё, каб пэрыяд кармленьня ня быў для маці мукаю, а наадварот даваў ёй пачуцьцё задаволеньня з належна выпаўненага абавязку і сьведамасьці, што дзіця адтрымала ад яе тое, што яму было найбольш патрэбным.

Маці, якія кормяць, могуць грашыць таксама і тады, калі лёгкаважаць сабе абавязкі ў адносінах да дзіцяці і наадварот: калі лішнімі клопатамі аб дзіцяці забываюць аб сабе і падводзяць гэтым пад небясьпеку сваё здароўе.

Вельмі важны для маці начны адпачынак. Ведаем, што для дзіцяці бязумоўна патрэбны 8 або 9 гадзінны начны перарыў у кармленьні (ад 9 увечары да 6 раніцы). Дзеля гэтага, трэба ўжо з першых тыдняў жыцьця прывучыць дзіця да гэтага перарыву, не даючы яму ўночы грудзей, якія замяняем — пры патрэбе — даваньнем вады або лёгкае гарбаткі.

Фізычная праца ня шкодзіць жанчыне, якая корміць грудзьмі, абы праца гэтая была ўмяркованаю, — празьмерная праца, як і кожная натуга, ўтамляе арганізм. Рух для жанчыны, якая корміць, вельмі радзіцца, асабліва калі ён адбываецца на сьвежым паветры. Але ведаем таксама, што сьвежае паветра патрэбна і для дзіцяці, дзеля гэтага трэба выносіць дзіця на спацыр ці забіраць яго з сабою ў адпаведную пару пару году — калі гаспадарчыя заняткі вымагаюць ад маці прабываньня па-за домам.

Бязьмерна важная рэч — дыэта жанчыны, якая корміць грудзьмі. Лішняя асьцярожнасьць шмат якіх мацярок, якія ў часе кармленьня сьцерагуцца розных патраваў — ня мае сэнсу; праўду кажучы, маці можна есьць усё, пры гэтым павінна есьць больш, як іншыя; калі-б, аднак-жа, ела зашмат і вельмі клуста,

прымушаючы сябе да яды, дык гэта выклікала-б непажаданую нястраўнасьць; ізноў-жа вельмі скупая яда паніжае колькасьць корму і аслабляе сілы жанчыны, якая корміць. Паміж іншым, жанчына гэткая павінна болей піць, што для яе ня будзе няпрыемным, таму што смага ў пэрыяд кармленьня звычайна бывае павялічанай. Пажаданым і пажыўным зьяўляецца, як напітак, малако, аднак-жа, калі маці павінна да яго прымушаць сябе, дык можна, прынамсі ў працягу пэўнага часу, замяняць яго зупай або нават і гарбатай, ці вадою, абы толькі задаволіць смагу тады, калі яна адчуваецца. У кормах, апрача пасілкаваньня, трэба дбаць аб пэўнай разнавіднасьці, а паміж іншым не баяцца фруктаў, якія якраз зьяўляюцца вельмі пажаданымі. Адзіным і безварунковым абмежаваньнем, на якое жанчына, якая корміць, зьяўляецца засуджанай, — будзе ўжываньне алькоголю, нават і піва, якое радзяць, як спосаб на павялічэньне колькасьці корму; яно не заслужвае на тое, каб яго раіць, а ўжо рашуча нельга ўжываць мацнейшых напіткаў, як гарэлка, лікеры, арак, віно і г. д. Алькогольныя напіткі шкодзяць дзіцяці таксама беспасрэдна, адразу могуць, напрыклад, выклікаць дрыжыкі (конвульсіі) ў дзіцяці, як і на будучыну: дзеці тых матак, якія ўжываюць алькоголь, зьяўляюцца вельмі нэрвовымі і далейшае разьвіцьцё іх прыносіць бацьком шмат клопату і бедаў. Замест гэтага ня трэба, аднак-жа, ў пэрыяд кармленьня выракацца людзкіх забаваў (тэатр, вечарына), абы захаваць пажаданую меру і не скарочваць гадзін сну і адпачынку.

(„Kultura")

---

# Палітычныя навіны.

## ПОЛЬШЧА.

### Прыезд Маршалка Пілсудскага ў Вільню.

31 ліпня ў Вільню прыяжджаў Маршалак Пілсудскі. Прабыўшы ў Вільні некалькі дзён, Маршалак Пілсудскі 2-га жніўня выехаў у Варшаву.

### Прэзыдэнт не ўласкавіў Кавэрды.

Як вядома, забойца савецкага пасла Войкава Барыс Кавэрда пакараны быў палявым судом на вечную турму. Адначасна з гэтым суд зьвярнуўся да Прэзыдэнта з просьбаю замяніць вечную турму на 15 гадоў катаргі. Прэзыдэнт, аднак, не скарыстаў з права ласкі, і Кавэрда, такім чынам, павінен будзе сядзець у турме ўсё сваё жыцьцё. Кажуць, што ён пераводзіцца з Варшаўскае турмы у турму „Сьвяты Крыж", у якой сядзяць толькі адны „вечнякі".

### Адносіны паміж Польшчай і Саветамі.

Конфлікт, які паўстаў, у зьвязку з забойствам пасла Войкава паміж Польшчай і Саветамі, зьліквідованы. У хуткім часе маюць пачацца перагаворы паміж польскім паслом у Маскве п. Патэкам і нар. камісарам загран. справаў Чычэрыным аб падпісаньні дагавору аб „ненападзеньні".

### Калі будзе склікаты Сойм?

Некаторыя пасольскія польскія клюбы зьбіраюцца падаць Прэзыдэнту колектыўную просьбу аб тым, каб у жніўні быў склікаты Сойм. Як вядома, Сойм і Сэнат спыніў сваю працу на падставе дэкрэту Прэзыдэнта ў той час, як мелася быць прынята пастанова аб тым, што Сойм і Сэнат могуць самі сябе распусьціць.

## Б. С. С. Р.

### Чарвякоў вярнуўся ў Менск.

Вестка аб тым, што Чарвякоў звольнены з пасады старшыні Ц. В. К. аказалася ня зусім праўдзівою. Чарвякоў адсунуты толькі ад партыйнае працы, а савецкую пасаду яшчэ займаець. На гэтым тыдні ён ізноў вярнуўся ў Менск.

### „Беларусізацыя".

У Менску 2 жніўня пачала выдавацца новая газэта ў расейскай мове „Рабочий".

### Напад на Койданава.

Партызанскі аддзел нейкага атамана „Кліма" напаў ўночы на Койданава і, разброіўшы батальён пагранічнае варты, абрабаваў касу і іншыя установы. Пры гэтым забіта 10 камуністых.

---

# Паштовая скрынка.

Вёска Крынічоўшчына Паўлу Альговічу. З Вашага пісьма трудна зьмяркаваць, якія штучныя гнаі патрэбны для Вашай зямлі. Гэта залежыць ад характару грунту і ад таго, што думаеце на ёй сеяць. Найлепш зьвярнецеся да бліжэйшай да Вас сельска-гаспадарскай установы (kółka rolnicze), якая дасьць Вам найлепшы адказ на гэтае пытаньне. Зьвяртаем увагу, што парады юрыдычныя і сельска-гаспадарскія Рэдакцыя дае толькі сваім падпісчыкам, а дзеля гэтага просім хутчэй прыслаць падпісную плату.

Пчаляру з вёскі Халаімаўшчыны. Просім пішучы не шкадаваць паперы і рабіць большыя одступы паміж радкамі, каб заставалася месца для паправак. Артыкул Ваш дадзём у чародным нумары.

---

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń“ Друк. „Рах“, вул. Сьв. Ігната 5.